

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(46) Кастрычнік 1997 October Год выд. 5


## 30-га і 31-га жніўня 1997-га году ў Амэрыцы адбылася чарговая, 22-я, сэсія Рады БНР.



Шматлікія дэлегаты з ЗША., Канады, Бэльгіі, Францыі, Летувы і Беларусі выбралі новага старшыню Рады БНР. — Спадарыню Івонку Сурвілла з Канады.

Вітаем нававыбраную старшыню Рады БНР. ды жадаем ёй усяга найлепшага.



**Спадар Андрэй СТРЭЧЫН** — ведамы і адданы працаўнік на беларускай ніве царкоўнага, грамадзкага і палітычнага жыцьця ў Замежжы. Моцны незалежнік і патрыёт Бацькаўшчыны.

Дарагі Андрэй! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



## Міхаіл Хвастоў узначаліць беларускае пасольства ў Канадзе

Намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Міхаіл Хвастоў у бліжэйшы час адбудзе ў Канаду ў якасці Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Беларусі ў гэтай краіне. Як стала вядома БелТА, канадскі бок ужо накіраваў у Беларусь неабходны для гэтай працэдуры агрэман.

Міхаіл Хвастоў — кадравы дыпламат, які доўгі час працаваў у прадстаўніцтвах нашай краіны пры міжнародных арганізацыях. Да назначэння намеснікам міністра замежных спраў ён займаў пасаду кіраўніка службы дзяржаўнага пратакола.

Цяпер у Канадзе знаходзіцца былы начальнік аддзела друку і інфармацыі МЗС рэспублікі Уладзімір Кабанаў. Ён займаецца абсталяваннем памяшкання для беларускай дыпламатычнай місіі.

БелТА.

Мінск.

## Беларускі ліцэй застаўся пад родным дахам. Дай Бог, каб назаўсёды...

Сёньняшні наш суразмоўца — намесьнік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя Лявон Баршчэўскі.

**— Коратка нагадайце, калі ласка, як разгортваліся падзеі вакол будынка...**

— Нам, можна сказаць, было наканавана змаганне. Дом на Кірава, 21, дастаўся некалі вялікімі высілкамі. Паспрыяла стаўленне Вярхоўнага Савета, калі дзялілася маёмасць КПСС. Пасля доўгіх спрэчак рашэннем Савета міністраў будынак быў перададзены 15 студзеня 1992 года нашаму Беларускаму гуманітарнаму адукацыйна-культурнаму цэнтру, дзе ліцэй — асноўная структура.

А сёлета наверсе было прынята рашэнне перавесці аб'ект на баланс кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Дарэчы, яно не ўзгаднялася ні з кіраўніцтвам Міністэрства адукацыі, ні з нашым ліцэем. Чыноўнікі ўсё зрабілі, як кажуць, ціхай сапай. Над ліцэем навісла пагроза высялення. Пачалося доўгае змаганне, пра перыпетыі якога шмат пісала прэса. Нарэшце мы атрымалі паперу, што, прынамсі, на гэты год яшчэ застаемся ў будынку. А далей жыццё пакажа...

**— Насуперак апасенням, уступныя экзамены ў ліцэі ўсё ж такі адбыліся. Як яны праходзілі і якія вынікі?**

— Вядома, мы хваляваліся: а ці не адпудзіць гэтая канфліктная сітуацыя абітурыентаў? Напружанасць спала, калі яны патокам пайшлі са сваімі заявамі. Праўда, экзамены прыйшліся на час рамонту...

Прыемна ўразіла, што вышэйназваныя абставіны не зменшылі прыток жадаючых вучыцца ў нас: сёлета конкурс складаў ад шасці чалавек на месца ў 9 клас да двух з паловай чалавек у дзесяты.

Радуе, што набор атрымаўся моцны. Але, шчыра кажучы, перспектывы пакуль цьмяныя. Звесткі, якія мы маем, сведчаць, што пагроза ліквідацыі ліцэя, на жаль, не знікла. Спосабаў ёсць многа, у тым ліку зліць яго з якім-небудзь рускамоўным, каб выцесніць на другі план родную мову, каб выкладчыкі адсюль пайшлі і ўстанова ў яе цяперашнім выглядзе перастала функцыянаваць. Такая небяспека існуе, але я ўсё ж спадзяюся, што тыя, хто гэтыя планы выношвае, адмовяцца ад іх, бо гэта будзе зусім недальнабачны і бесперспектыўны крок...

**— Падчас падзеяў вакол ліцэя сябры Беларускага патрыятычнага саюза моладзі ладзілі ля будынка пікет. Адным з іх лозунгаў быў "Далоў нацыяналізм у адукацыі!". Як бы вы гэта пракаменціравалі?**

— Тыя, хто ладзіў пікет, на мой погляд, рабілі гэта па ўказцы, лозунгі ім прадыктавалі пэўныя дарослыя асобы... Нагадаю, што ліцэй дзейнічае цалкам адпаведна з законам аб адукацыі, ягоныя праграмы зацверджаны Міністэрствам адукацыі. Ніякай палітычнай дзейнасці, ніякіх арганізацый з палітычным накірункам, агітацыі ў сценах ліцэя не было, няма ды не будзе. А папракаць за тое, што тут пануе дух павагі да роднай мовы, культуры, гісторыі, — гэта проста нонсэнс!

**— Што новага чакаецца ў гэтым навучальным годзе?**

— Вялікіх зменаў не адбудзецца, хіба што выкладчыкі далей працуюць над інтэграцыяй гуманітарных дысцыплін. Ужо некалькі год літаратура, напрыклад, выкладаецца адзіным прадметам, гэта значыць — няма штучнага падзелу на рускую, беларускую, сусветную...

Словам, у сценах ліцэя ўзяты накірунак на глыбокія і трывалыя веды, выхаванне інтэлігентных і высокаадукаваных маладых людзей, якія здолеюць потым плённа працаваць на карысць Бацькаўшчыны. Вось толькі б не ладзілі нам новых перашкод...

**Гутарыла Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

"Народная Воля"

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

elarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published nonthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Арышты ў Стоўбцах

**Стаўбцоўская міліцыя актыўна шукае асобаў, якія ў пачатку месяца распісалі ўвесь горад антыпрэзідэнцкімі лозунгамі.**

У панядзелак міліцыя арыштавала 18-гадовага мясцовага актывіста БНФ Аляксея Шыдлоўскага.

Міліцыянты прыйшлі дахаты да сп.Шыдлоўскага і забралі яго ў райаддзел для дачы паказанняў у якасці сведкі па факце з'яўлення на сценах і платах цэнтру Стаўбцоў антылукашэнкаўскіх «графіці». У міліцэйскім аддзяленні Шыдлоўскага абвінавацілі ў здзяйсненні злачынства па арт. 201 ч.2 КК Беларусі (злоснае хуліганства) і пасадзілі ў камеру, дзе ён знаходзіцца ўжо пятыя суткі.

Міліцыя лічыць, што Аляксей быў арганізатарам антыпрэзідэнцкай акцыі. У той жа дзень на кватэры Шыдлоўскага быў праведзены вобыск і канфіскаваныя сцягі, лістоўкі, брашуры і асабістыя дзённікі фронтаўскага актывіста. Следчыя прыцягнулі да гэтай справы і жонку Аляксея Іну, пакуль, праўда, у якасці сведкі. У аўторак Шыдлоўскаму дазволілі сустрэцца з маці. Стаўбцоўскія аператыўнікі сочаць за сваякамі і знаёмымі Шыдлоўскага. Так, у сераду на стаўбцоўскім вакзале асобы ў цывільным арыштавалі сябра Аляксея, які прыехаў з Мінска; ягонае месца знаходжання застаецца невядомым. Не выключана, што правінцыйныя «пінкертоны», якім нудна сядзець без сапраўднай работы, вырашылі выкрыць у ціхім райцэнтры «падпольную тэрарыстычную арганізацыю».

На працягу 10 дзён пракуратура павінна прад'явіць Шыдлоўскаму афіцыйнае абвінавачванне. Нагадаем, што быў адлічаны з 1 курса факультэта журналістыкі БДУ за ўдзел у веснавых акцыях апазіцыі. Пасля адной з акцыяў Мінскай вясны-97 Аляксей быў арыштаваны і 10 сутак трымаў у турме галадоўку. Маладзёжная арганізацыя БНФ, членам якой з'яўляецца Шыдлоўскі, днямі распаўсюдзіла зварот, у якім патрабуе ягонага неадкладнага вызвалення.

**Язэп СІНІЦКІ**

СВАБОДА

## П'яная вёска напала на АМОН

**Сапраўдная бойня адбылася ў мінулую суботу ў вёсцы Аброва Івацэвіцкага раёна паміж вясковай моладдзю і нарадам АМОН.**

Гісторыя пачыналася так. Дзевяць амонаўцаў з Баранавічаў прыбылі з рэйдам-праверкай у вёску Аброва, якая лічыцца крымінагеннай, і затрымалі аднаго нецвярозага хлопца. У гэты дзень у вёсцы спраўлялі ажно 4 вяселлі і большасць жыхароў была на добрым падпітку. Вестка пра тое, што заезджыя «менты» затрымалі іхнягa сябра, хутка абляцела ўсю вёску, і на плошчы перад Домам культуры сабраўся натоўп у 100 чалавек. Міліцыянтам выставілі патрабаванне неадкладна адпусціць хлопца і ўбірацца прэч. Паколькі ніводны з бакоў саступаць не збіраўся, славесная спрэчка хутка перарасла ў бойку. Амонаўцы пачалі страляць у паветра, але гэта яшчэ больш раззлавала натоўп. Ахоўнікі парадку былі моцна збітыя, а раённы пракурор, які прыехаў у вёску, каб суцішыць раз'юшаны натоўп, ледзь выратаваўся ад п'янага гневу вяскоўцаў.

Як нам паведамілі ў прэс-службе ўпраўлення ўнутраных справаў Брэсцкай вобласці, усе дзевяць супрацоўнікаў АМОНа атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Дакументы па факце нападу на супрацоўнікаў міліцыі будуць накіраваныя ў пракуратуру для ўзбуджэння крымінальнай справы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




Малюнак Мікалая СЕЎЛЮКА.

# Покушения на Лукашенко

**На минувшей неделе ортодоксальный российский коммунист Виктор Илюхин ошарашил: на президента Беларуси готовится покушение. Рассказывают, что после этого эфирного «выстрела» Александр Григорьевич срочно затребовал на свой стол все материалы, имеющие отношение к «делу»...**

СН-

■ **АЛЕКСАНДР ТОМКОВИЧ**

Осведомленность российских коммунистов насчет покушений на нашего президента настолько глубока и многогранна, что порой даже наталкивает на мысль: а не сами ли коммунисты сие коварные замыслы порождают. В этом плане белорусским спецслужбам есть над чем поработать. Уж больно распоясалась матушка Россия: то журналистов на наши границы шлет, то про суверенную президентскую жизнь что-то бессвязное бормочет. На месте генпрокурора Божелко я бы, не задумываясь, дал санкцию на прослушивание всех телефонов российской Государственной думы. Мало ли что у них на уме. Один Жириновский чего стоит...

Наверное, технически это сложно, но наши смогут. Наш КГБ самый КГБ в мире. Помните, как в прошлом году приезжал в Минск коммунист Аман Тулеев, тогда эсэнговский министр, а теперь губернатор. Так вот, он сразу про три покушения на Александра Григорьевича поведал. И что вы думаете? Наши моментально все «раскопали».

Обеспокоенный будущим первого президента страны оппозиционный депутат А.Лебедько после громоподобного заявления Тулеева обратился в Комитет госбезопасности с соответствующим депутатским запросом. Дескать, расскажите народу, кто смел покушаться?!

К слову, тот факт, что угроза жизни президента обеспокоила оппозицию, а не соратников Александра Григорьевича, говорит о многом. Или окружение президента знало о пустопорожности тулеевской темы, или безопасность Хозяина им абсолютно индифферентна. Самим бы уцелеть...

Первое предположение выглядит более предпочтительным, ибо полностью подтверждается текстом ответа председателя КГБ В.Мацкевича депутату А.Лебедько. Думается, есть смысл его процитировать. Стилистика полностью сохранена, датирован документ 13 ноября 1996 г.:

**«Руководителю Секретариата сессии Верховного Совета Республики Беларусь т.Драко В.В.**

**Депутату Верховного Совета Республики Беларусь т.Лебедько А.В.**

**Органами государственной безопасности Республики Беларусь в 1996 г. во взаимодействии со Службой безопасности Президента проверялся ряд оперативных материалов об угрозах террористического характера в адрес высших должностных лиц государства, в том числе и Президента республики.**

**Так, в феврале с.г. во время выступления Президента Республики Беларусь во Дворце нефтяников в г.Новополоцке по телефону была высказана анонимная угроза взрыва здания. В ходе проведения розыскных мероприятий аноним был установлен. Возбуждено уголовное дело по ст.201 ч.2 (хулиганство).**

**В августе 1996 года, как связь лиц, незаконно изготавливающих самодельные взрывные устройства, правоохранительными органами арестован житель г.Слонима, высказывавший угрозы и якобы планировавший совершить террористический акт в отношении Президента республики во время предполагаемого приезда последнего в деревню Жировичи Слонимского района.**

**В период нахождения Президента Республики Беларусь в г.Гродно (август 1996 г.) оперативно-следственной группой УКГБ—УВД задержан высказывавший террористические намерения в адрес главы государства местный житель, который, как установлено, является психически больным лицом.**

**Другими данными о фактах конкретной подготовки покушений на жизнь Президента Комитет государственной безопасности не располагает».**

Таким образом, жизни нашего президента «угрожали» хулиган, чумной пиротехник и псих. Насколько серьезны угрозы подобного типа, судите сами. Лично я точку зрения Тулеева на счет сей считаю чистой воды пропагандой. И практически уверен, что Илюхин пытается сострячь шерсть с такой же дешевой овцы.

Было на Александра Григорьевича и еще одно покушение подобного свойства. Приснопамятное — в Лиозно. Которое принесло Лукашенко симпатии доверчивой части электората и которое до сих пор спецслужбами не раскрыто. Впрочем, последнее обстоятельство не помешало тогдашнему руководителю КГБ Геннадию Лавицкому стать послом Беларуси в Израиле. Говорят, он даже выбирал, в какую страну ехать. Вот уж воистину: не знаешь, где найдешь и где потеряешь. Вдумайтесь: на лидера страны совершается покушение, спецслужбы преступника не находят, а их руководитель пожизненно удостаивается ранга «чрезвычайного и полномочного» и уезжает на работу, за которую платят в твердой валюте... Как тут не вспомнить легендарную фразу пролетарского классика: а был ли мальчик?

В этой связи будет уместным процитировать еще один документ, подписанный генералом Мацкевичем:

**«... Уголовное дело по факту покушения на жизнь кандидата в Президенты Республики Беларусь, депутата Верховного Совета Лукашенко А.Г. возбуждено прокуратурой Витебской области 17 июня 1994 года по признакам преступления, предусмотренного статьей 63 УК РБ, и его производство было поручено Комитету госбезопасности.**

**В ходе следствия выдвигались версии: о покушении на жизнь Лукашенко А.Г. как государственного деятеля, покушение совершено по другим мотивам, не связанным с его общественной или государственной деятельностью (из корыстных или хулиганских побуждений, мести, личной неприязни), выстрелы произведены по неосторожности кем-то из команды Лукашенко и другие.**

**Предварительное следствие осуществлялось в направлении всестороннего, полного и объективного исследования всех выдвинутых по делу версий. Данных о причастности к указанному событию конкретных лиц получено не было, в связи с чем в соответствии с пунктом 3 статьи 194 УПК РБ (неустановление лица, подлежащего привлечению в качестве обвиняемого) по уголовному делу 17 июня 1995 года производство приостановлено...».**

Возможно, я большой оптимист, но почему-то абсолютно уверен, что упомянутое «лицо» когда-то установлено все-таки будет... Спецслужбы у нас работать умеют. Хорошо умеют. И как бы ни старались российские коммунисты, в поисках «врагов народа» наших местных «умельцев» им не переплюнуть.

Однако суть по большому счету не в этом. Печально не то, что о здоровье нашего президента российские «красные» пекутся больше наших спецслужб, а то, что жизнь человека стала предметом политических маневров дурнопахнущего содержания.

Еще в июле Анатолий Лебедько прогнозировал, что ближе к осени официальная идеология начнет муссировать тему покушений на А.Г. Дескать, это единственное, чем можно отвлечь внимание народа от насущных проблем. Похоже, он оказался прав. Илюхинская «ласточка» — первая. Остальные еще в пути.

Впрочем, все это в новейшей истории уже было. Берия спас жизнь Сталину, Геббельс закрывал грудью Гитлера, ... сорвет покушение на...

Многоточия пока оставим.

## Сёе — тое...

Віктар Лешчанка ў "Народнай газэце" піша: "І куды глядзяць нашы адпаведныя службы, калі пад выглядам дзяцей, пацярпеўшых ад Чарнобыля, на аздараўленьне за граніцу многія айчынныя фонды вывозяць усё часьцей дзяцей дзяржаўных бонзаў Беларусі. Я нічога ня маю супраць здаровых дзяцей. Але... Першымі ўзарваліся гішпанцы і заявілі: калі тыя, каго вы да нас прывозіце на бясплатнае лячэньне, і ёсьць вашы самыя пацярпеўшыя (ходзяць з сотавымі тэлефонамі і пачкамі даляраў), тады ад чаго іх лячыць?"

Лукашэнкаўскія рускаязычныя карытнікі выкарыстоўваюць ня толькі Гішпанію, але і Амэрыку, Канаду ды іншыя краіны Захаду. Пара закончыць гэтую камэдыю з "аздараўленьнем"...

* * *

На міжнароднай канфэрэнцыі ў Вільні, у якой удзельнічала 12 кіраўнікоў дзяржаваў Усходняй Эўропы, прэзыдэнты Польшчы і трох Балтыцкіх краін пакрытыкавалі А. Лукашэнку за парушэньне правоў чалавека ў Беларусі. "Таварышч" Лукашэнка не прызнаў крытыкі, і сказаў, што у Беларусі ўсё ОК.

* * *

Амерыканская суполка "Боінг" і Эўрапэйская "Аірбас" маюць распрацаваныя пляны будаваць самалёты далёкае адлегласьці на 550 пасажыраў.

Некаторыя заказчыкі хацелі-б мець самалёты на 650 пасажыраў, але каб цана выкарыстоўваньня іх была на 15% дзешавейшай ад існуючай. "Боінг" сур'ёзна задумваецца над будовай машыны на 460 пасажыраў... На сёньня самым папулярным і найвялікшым самалётам зьяўляецца "Боінг" 747-400, які забірае ў палёт 400 пасажыраў.

*Дарагія Землякі!* **Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..**

# ПРА СВАБОДУ, РОЎНАСЦЬ І БРАТЭРСТВА

"ЗВЯЗДА"

## Старая тэма

**Нейкі час мне здавалася, што пра гэта ўжо не варта пісаць. Ужо больш няма каго пераконваць. Тэма закрыта. Але становішча аказваецца больш складаным, чым гэтага хацелася б. З гадамі пачынаеш разумець больш. Асабліва, калі задумваешся пастаянна. Верагодна, ды так яно і ёсць, ідэя свабоды і роўнасці (чытай: сацыялізма) закладзена ў прыроду чалавека. Кшталту ідэі дабра і зла, любві і нянавісці, вернасці і здрады. Па-сутнасці, ідэя Хрыста — таксама своеасаблівы сацыялізм, на ранней стадыі — нават больш чым потым, калі хрысціянства прыстасавалі для бягучых патрэб. Гэта ж Хрыстос накарміў пяцю хлябамі некалькі тысяч чалавек. У наш час гэта выдатна ўдавалася ўсім без выключэння пралетарскім правадырам, верным ленінцам. Калі верыць мемуарнай літаратуры.**

**Колькі людзей не пераконвай, што практычнага ўвасаблення сацыялізма не атрымалася — вось жа прыклады! — яны ўсё роўна будуць непахісна верыць. Я думаю, гэта нават добра, бо даказвае, што свае лепшыя якасці чалавецтва не згубіла. Відаць, разважаць пра ўсё гэта можна толькі вось на такім узроўні — узроўні даследавання карэннай сутнасці чалавечай прыроды. Праўда, ад гэтага сацыялізм не стане рэальнай з'явай, як не стаў дагэтуль...**

Уласна кажучы, пабуджальным матывам для мяне стала невялікая заметачка ў раённай газеце, сустрэтая выпадкова і выпадкова ж прачытаная. Як гаворыцца, запала ў душу. Не стылем і тонкім майстэрствам, там гэтага і не начавала, а некаторымі выказваннямі. Раённы друк увогуле зараз поўны такімі заметачкамі і заметкамі, што наводзіць на думку аб мэтанакіраванай кампаніі. Можна было б сказаць: зноў народ ахмураюць. Стрымлівае тое, што ахмураць народ і не патрэбна, ён сам так думае, так што тут — размова аднадумцаў. Ён бы, народ, думаў інакш, але нічога узамен яму не прапанавалі, не змаглі, а хутчэй проста не захацелі даказаць, што пасля так званага сацыялізму будзе лепш. Чалавек, добра гэта ці дрэнна, думае пераважна страўнікам. Французы не жадаюць сацыялізму, бо сытыя і пры капіталізме. У сваю чаргу, беларусы не імкнуцца да капіталізму, бо пры сацыялізме былі адносна сытыя. Дакладней, не вельмі галодныя.

Але — да заметкі. «Мой бацька, — паведамляе аўтар, — які з першага дня быў на вайне, загінуў. Я бегаў у школу галодным, босым па скутай марозам зямлі, але ганарыўся, што жыву ў Краіне Саветаў. Я многага тады не разумеў, жыў настаўніцкай падачай (трэба разумець, верыў іх тлумачэнням? — **С. Ш.**) А калі вырас (а гэта было ўжо ў перыяд запуску касмічных спадарожнікаў), то ўбачыў, што мы на самой справе пачалі жыць у сацыялізме. Пенсіянеры спраўна атрымлівалі пенсіі, на якія можна было бязбедна пражыць, лайдакоў прымушалі ўладкоўвацца на працу, а дзеці нашы, праўда, крыху пазней пачалі жыць ледзьве не ў камунізме. І ніхто тады не трывожыўся за заўтрашні дзень...»

Ну што тут скажаш? Застаецца бяссільна скласці лапкі перад такой стальной верай. Чалавек хоча ў гэта верыць — яго права, яго пункт погляду. Ва ўсякім выпадку, трэба паважаць. Але канцы з канцамі не зыходзяцца.

Я, між іншым, таксама верыў у тое ж самае. Мне не сорамна ў гэтым прызнацца, не я адзін такі быў. Напрыклад, адна мая знаёмая плакала на поўным сур'ёзе, калі памёр Брэжнеў. Але чарвячок сумнення ўсё ж такі быў. Скажам, было падазрона, чаму нас так заўзята пераконвалі, што самая лепшая краіна — наша. Калі гэта так, то навошта званіць аб гэтым на кожным вугле?

Аўтар піша, што «нашы дзеці жылі ледзьве не пры камунізме». У 1980 годзе мне было 20, але прыкмет камунізма, як нам пра іх расказвалі, штосьці не заўважаў. Не было складаў (так нам уяўлялася) з бясплатнай ежай і вопраткай. Не было — ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях. «Маральны кодэкс будаўніка камунізма» таксама чамусьці ніхто не захоўваў. Нам гаварылі адно, а мы ведалі зусім другое: каб штосьці мець у гэтым жыцці, трэба было ўладкавацца на «хлебнае» месца. Скончыць прэстыжную ВНУ, удала размеркавацца, удала ажаніцца ці выйсці замуж і далей у тым жа духу. Заможна жылі нахабныя, бессаромныя, з жалезнымі лакцямі, — мы гэта таксама бачылі. Пры чым тут сацыялізм? І дзе роўнасць, свабода і братэрства?

Я не ведаю, у якім вакууме жыў аўтар заметкі, калі ён усяго гэтага не бачыў.

І потым, хоць забіце, не магу зразумець — што добрага бегаць галодным і босым па скутай марозам зямлі? Па-першае, холадна, падругое, можна захварэць. І трэцяе, дзеці разгромленай Германіі босымі чамусьці не бегалі. Мой бацька таксама ваяваў, можа пацвердзіць. Галодныя, так, былі, але не вельмі доўга. Праз некалькі гадоў у Германіі пачаўся эканамічны пад'ём, і галоўнай праблемай немцаў стала дэнацыфікацыя, а не кавалак хлеба надзённага. У адрозненне ад нас, у прыватнасці, ад майго апанента, які, як я зразумеў, жыў у вёсцы і павінен выдатна помніць, у якой галечы жылі савецкія калгаснікі. Няўжо і гэта можна забыць, дзеля светлай ідэі? Тады я не ведаю, аўтару павінна быць сорамна хоць бы перад памяццю сваёй маці. Цікава, якую пенсію яна атрымлівала?

Якраз тады, калі мой апанент «бачыў, што мы на самой справе пачалі жыць у сацыялізме», здарыўся новачаркаскі расстрэл. Нагадаю, у 1962 годзе у Новачаркаску быў галодны бунт рабочых, абураных зніжэннем расцэнак і адсутнасцю прадуктаў. Дэманстрацыя была жорстка расстраляна. Некалькі дзесяткаў чалавек сацыялізму так і не ўбачылі. Дзіўна, як быццам, адна краіна, а такія розныя ўражанні...

Дарэчы, пра ахвяры. Паводле падлікаў некаторых даследчыкаў знішчана: у грамадзянскую вайну — 18 млн., калектывізацыя, голад, раскулачванне — 22 млн., рэпрэсіі 1935—41 гг. — 19 млн., вайна — 32 млн., рэпрэсіравана з 1941 па 1953 гг. — 9 мільёнаў чалавек. Ці не занадта многа для ўсталявання самага справядлівага і гуманнага ладу на зямлі?

Кожным чалавекам рухае адзін асноўны матыў, яго трэба толькі правільна вызначыць. У выпадку з аўтарам заметкі гэта зрабіць даволі лёгка: страх і нянавісць. Страх, па-першае, быць самім сабою, рабіць учынкі, адказваць за іх, адстойваць сваю праўту, — прасцей мець набор зацверджаных звышісцін, тыпу «Кароткага курсу ВКП(б)».

Адсюль, дарэчы, выцякае нянавісць да тых, хто жадае змяніць такі просты, правераны, зручны парадак. Так што нічога складанага тут няма, ніякай дастаеўшчыны. Проста страх і нянавісць.

Я разумею, што такім людзям нічога даказаць нельга, як нельга змяніць колькасць храмасом у жывога чалавека. Яны ўсё роўна застануцца «стойкімі прыхільнікамі». І я пішу ўсё гэта больш для тых, хто здольны думаць, хоць бы па прычыне маладзейшага ўзросту.

Я перакананы, што спрэчкі пра тое, што называлася сацыялізмам, яшчэ далёка не скончаны. Ва ўсякім выпадку, у нашай краіне...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

Таіса Трафімава

### "ЗОРКА ВЭНЕРА"

"Зорка Венера"
гучыць над Карпатамі,
Не, роднай мове
не месца за кратамі!
Нас разумеюць і тут,
на чужыне,
Матчына мова не счэзне,
не згіне!
Жыць не дазволім
нялюбай нявестаю,
Продкі ж яе
так любілі і песцілі!
Што ж не да твару ні сцяг,
ні "Пагоня",
Быццам у шкоду
ускочылі коні?!
Хіба ж няма
у каго навучыцца?
Кожны народ
мае чым ганарыцца.
Нашы суседзі
налева й направа
Здаўна сябе
адчуваюць дзяржавай.
Гэтую праўду
народу данесці —
Колькі галоў
яшчэ прыйдзецца знесці!
Ты не адскоквай
"Пагоня", далёка,
Шаблю занось
найвышэй — найвысока!
Трэба —
ударыш яшчэ й капытамі,
Каб не здавілі
гарляк хамутамі!
Зрок яшчэ
вернецца, вочы падніме
Бедны народ!
Ты даруй нам, Максіме.



Пад градусам

# Самагоначка "лясная" люд вілейскі з ног збівае

**Як наш карэспандэнт Рэгіна НОВІК трапіла на падпольны міні-завод**

***Міліцэйскія "аператыўкі" рэзка прытармазілі сярод вёскі Асіпавічы. У пульхлым пяску, нібы свінні ў гразі, качаліся дзве ачмурэлыя шэрыя істоты. "Лясной" паспелі ўжо нахлябтацца зранку, канстатавалі міліцыянеры. Мы кіравалі ў "мядзведжы" куток за празрыста-імклівай Віліяй, дзе нахабна "ціснулі" атруту майстры-самагоншчыкі.***




Вілейская "лясная", як тут лічаць, на роўных канкурыруе з валожынскай "бакштанкай". А самагонны промысел набыў такі шырокі размах, што ўсе гусцейшыя сасоннікі ды ельнікі засялілі яе вытворцы. Дайшло да таго, што па вясковых вуліцах нават удзень нельга прайсці, каб не спатыкнуцца аб паруТройку непрытомных ад сівухі цел. Райвыканкам і міліцыю сталі атакаваць кіраўнікі гаспадарак, слёзна просячы прыдушыць "зялёнага змея", пакуль ён канчаткова не ўзяў у палон механізатараў і даярак. І сёлета ў раёне пачалася бязлітасная вайна з падпольнымі міні-заводамі. Амаль штотыднёва міліцыя аб'язджае глухія куткі.

...З лясной дарогі зварочвае ў ельнік непрыкметная каляіна. Крадзёмся да вялізнай паляны. Бразгаюць вёдры, ледзь не збівае з ног густы непрыемны пах. Міліцыянеры перагаворваюцца з дапамогай толькі ім зразумелых знакаў. Побач раздаецца пракураны голас: "Надта брага густая, ці выйдзе што". Імклівы кідок праз зараснікі, і сяржанты хапаюць дваіх з разяўленымі ад здзіўлення ратамі. Трэці раптоўна кідаецца наўцёкі. Зачапіўшыся за вялізную флягу, трапляе тварам акурат у вядро з першаком. "Усе?" – пытаюць міліцыянеры. "Палонныя" згодна ківаюць галавой.

– Ну і апарат, – абыходзім ладнае, бліскучае (з нержавейкі) прыстасаванне. – Нячаста такія трапляюцца.

Доўга дзівімся на вялізныя, літраў на 300– 400, бражнік, выпаральнік, так званыя халадзільнікі. Квадратны чан для брагі таксама "цягнуў" тоны на 3–4. За ім хаваўся ў цяньку калодзеж, з другога боку – буданчык-шалаш і стол.

Міліцыя апаражняе, шкадуючы зямельку, шматлікі посуд і робіць дэмантаж апаратуры. А з-за шалаша нечакана выпаўзае нешта слаба мармычучы, асалавелы бадзяга. Спрабуе падняцца і ... плюхаецца ў бражнае месіва. Аслабеў, небарака. Нічога дзіўнага, тлумачаць вартавыя парадку, такія аматары паліць на халяву або, як тут кажуць, "на барана" суткамі валяюцца каля апаратаў. Жонкі дзякуюць, што міліцыя знаходзіць.

Малюнак Алега ПАПОВА.

Затрыманыя, усе жыхары навакольных вёсак, тлумачаць, што ў калгасе зарплату толькі-толькі за красавік выдалі ды і малая яна. А паўлітроўку "лясной" за 30 тысяч з рукамі адарвуць. Так што штраф у якога паўмільёна ім дробязь. А вось апарата шкада, сапраўдны майстар рабіў.

– Здаецца, гэты заводзік 41-ы будзе, – падлічвае здабычу начальнік службы крымінальнай міліцыі Вілейскага ГРАУС Уладзімір Кунавіч і ўдакладняе: – З пачатку года.

Канфіскаваныя самагонныя апараты здалі на металалом. Але мясцовыя Кулібіны не дрэмлюць. З тыдзень назад даішнікі затрымалі "экспедытараў", што везлі ў горад 360 літраў "лясной". Відаць, хтосьці аднавіў падпольную дзейнасць. Магчыма, ажыло балотца Гніліца за пасёлкам Стаўкі. Міліцыянеры зноў сабраліся ў дарогу...

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Леанід ЛЫЧ*

# МЕНСК — МАЗГАВЫ ЦЭНТР БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Для газэты "Беларускі Дайджэст"

У багатай, зьмястоўнай гісторыі 930-гадовага Менску асаблівае месца займае дзень 5 студзеня 1919 году. У гэты дзень сюды са Смаленску пераехаў Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, дзякуючы чаму Менск стаў сталіцай незалежнай сувэрэннай дзяржавы. Падобная акалічнасьць вельмі спрыяльна адбілася на ўзрастаньні яго ролі ў палітычным, эканамічным і культурным жыцьці Бацькаўшчыны. З біяграфіяй горада зьвязаны лёсы многіх выдатных палітычных асобаў, навукоўцаў, дзеячоў культуры, з удзелам якіх выпрацоўваліся ўсе асноўныя формы і накірункі нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця маладой рэспулікі. У Менску зарадзілася і дала добры плён на тэрыторыі ўсёй БССР ідэя беларусізацыі.

Да гэтай высакароднай ідэі Менск прыйшоў не адразу. Яго дзяржаўным і партыйным органам спатрэбілася нямала часу, каб пераканацца, што пасьля працяглай і вельмі разбуральнай паводле сваіх вынікаў палітыкі палянізацыі і русіфікацыі беларускага народу ён не ў стане пасьпяхова ажыцьцявіць задачу нацыянальна-культурнага адраджэньня ў апоры толькі на свае сілы, ініцыятыву якіх-небудзь паасобных арганізацыяў і ўстноў. Паколькі гэта задача мае агульнадзяржаўнае значэньне і адносіцца да разраду адных з самых складаных, з цягам часу прыйшлі да разуменьня, што ў баку ад рашэньня яе не маюць права стаяць ні дзяржаўныя, ні партыйныя органы, ні само грамадзтва і перадусім яго ітэлігенцыя. І канчаткова высьпела, добра прыжылося такое разуменьне ў галовах беларускіх палітыкаў і па-сапраўднаму апантаных ідэяй нацыянальнага Адраджэньня людзей дзесьці ў канцы 1923 — пачатку 1924 г.

Ідучы насустрач ім, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК) БССР прымае 15 ліпеня 1924 г. гістарычную па сваім значэньні для лёсу беларускага народу пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі". Ёю дзяржава ўзваліла на свае не надта дужыя плечы ўвесь цяжар нацыянальна-культурнага адраджэньня беларускага народу як асноўнага, карэннага насельніцтва БССР. Цэнтрам, штабам такога адраджэньня стала яе сталіца — горад Менск. Паводле культуры, адукацыі, мовы зносін паміж людзьмі тагачасны Менск з вялікай нацяжкай можна назваць беларускім нацыянальным асяродкам. Некарэннага насельніцтва ў ім жыло больш, чым беларусаў, дый апошнія, з прычыны такой працяглай асыміляцыі, лепш сябе пачувалі ў рускай культурна-моўнай стыхіі, чым у сваёй прыроднай, нацыянальнай.

Чаму-ж тады ў той крайне неспрыяльнай для беларусаў культурна-моўнай сытуацыі ў Менску дзяржава вырашыла яго жыцьцё ладзіць не на якім-небудзь чужым, прычым больш трывалым, дасканалым нацыянальным груньце, а на іх уласным, у поўнай адпаведнасьці з гістарычнымі традыцыямі, духоўнай спадчынай роднага краю? Можа дастаткова было таго, што паводле ўсяго гэтага будавалася жыцьцё тагачаснай беларускай вёскі? Не, дзяржава, нягледзячы на сваю маладосьць, маладасьведчанасьць у вырашэньні нацыянальнага пытаньня, не памылілася ў намеры надаць Менску арыгінальнае адметнае нацыянальна- беларускае аблічча, бо ён-жа быў ня проста горадам, а сталіцаю самастойнай, адрознай ад суседніх краін дзяржавы і таму павінен быў ва ўсім адпавядаць культуры, побыту, мове яе тытульнага насельніцтва — беларусаў. У стольным горадзе БССР беларускага павінна было быць столькі, колькі рускага ў Маскве, польскага — у Варшаве, латыскага — у Рызе, нямецкага — у Бэрліне... І гэта ні ў кога, акрамя мо хворых на нацыянальны нігілізм ці рускі вялікадзяржаўны шавінізм, не выклікала пярэчаньняў, інакш беларусізацыя не мела-б сабе столькі багата прыхільнікаў з боку рускіх, габрэяў, палякаў, украінцаў і іншых прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў.

Ставячы перад беларусізацыяй зусім заканамерную мэту зрабіць жыцьцё на Беларусі паводле ўсіх параметраў нацыянальна-беларускім, дзяржаўныя ўлады разам з самай перадавой часткай інтэлігенцыі Менску распрацавалі і правялі на практыцы шэраг захадаў, скіраваных на задавальненьне ўсіх надзённых запатрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў рэспублікі. Асабліва шмат павучальнага набыта ў тыя гады па ўліку нацыянальнага фактару ў пытаньнях выкарыстаньня мовы ў розных сфэрах грамадзкай дзейнасьці чалавека, што дапамагло выпрацаваць правільную лінію ў разьвіцьці культуры і адукацыі ў адпаведнасьці з этнічным складам насельніцтва. Дзяржаўнымі мовамі былі прызнаныя ажно чатыры: беларуская, руская, габрэйская і польская. Праўда, апошнія дзьве ў моц аб'ектыўных прычын як сьлед не праявілі сябе ў такім высокім статусе. Яму ў поўнай ступені адпавядалі сацыяльныя функцыі толькі беларускай і рускай моваў, прычым першай з іх меркавалася даць больш шырокае поле дзейнасьці. У згаданай вышэй пастанове ЦВК БССР "Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі" быў такі пункт: "З прычыны значнай перавагі ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсійнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі".

Як выявілася на практыцы, зрабіць гэты пункт пастановы рэальнасьцю аказалася архіскладанай справай, па-першае, таму што пад той час дамінуючае месца ў дзяржаўна-палітычнай сфэры, справаводстве адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, у адукацыі, асабліва ў вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай школе, займала руская мова, па-другое, беларускай мове вельмі ўмела ставілі рознага роду перашкоды тыя палітыкі і прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія не валодалі і не жадалі — часта з прычыны сваіх ярка выяўленых рускіх вялікадзяржаўных настрояў — вывучаць яе.

Дзяржаўныя і партыйныя ўлады рэспублікі і яе сталіцы Менску разам з прыцягнутай імі на свой бок інтэлігенцыяй цалкам валодалі тагачаснай складанай сытуацыяй і даволі пасьпяхова выводзілі беларускую мову на той сацыяльны ўзровень, які ёй быў вызначаны пастановай. У вырашэньні гэтага пытаньня Менск стаў эталонам для іншых гарадоў рэспублікі, у тым ліку Гомеля, Віцебска і Магілёва, якія з-за таго што некалькі гадоў знаходзіліся ў складзе Расійскай Фэдэрацыі, ня так былі добра падрыхтаваныя да беларусізацыі, як наша сталіца. Істотна зрушыць справу з месца дапамог пазытыўны асабісты прыклад людзей, якія мелі самае прамое дачыненьне да верхніх рэспубліканскіх і гарадзкіх эшалонаў улады, на што не маглі не адрэагаваць адпаведным чынам радавыя службоўцы. Не сакрэт, што ня толькі ў краінах з таталітарным, але і з больш-менш дэмакратычным рэжымам амаль усе дзяржаўныя асобы імкнуцца падладжвацца да паводзінаў і звычак, мовы кіраўнікоў самых высокіх рангаў. Напачатку сярод такіх кіраўнікоў Беларусі куды радзей можна было пачуць яе нацыянальную мову, чым у больш нізкіх эшалонах дзяржаўнай улады і кіраваньня. Але гэта толькі на пачатку. Так, калі ў 1925 годзе ў цэнтральных (рэспубліканскіх) установах толькі 22 працэнты агульнай колькасьці супрацоўнікаў валодала беларускай мовай, а ў акруговых і раённых — 36, дык у 1926 годзе адпаведна — 54 і 42, у 1927 годзе — 80 і 70 працэнтаў. Прыведзеныя даныя ёсьць пераканаўчае сьведчаньне ня толькі сур'ёзнага стаўленьня вышэйшых дзяржаўных органаў да беларусізацыі, але і рэальнасьці, ажыцьцявімасьці самой гэтай ідэі. Пры такім высокім працэньце валоданьня беларускай мовай у рэспубліканскіх, акруговых і раённых органах практычна для іх ужо не існавала аніякіх праблемаў з яе ўжываньнем у сваім службовым справаводстве.

Сур'ёзных праблем з гэтым не зьведалі высокія партыйныя органы рэспублікі, хоць кіравалі імі, асабліва апаратам ЦК КП(б)Б, пераважна прысланыя Масквою асобы. Дарэчы будзе заўважыць, што статус дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі быў нададзены акурат тады, калі на пасадзе першага сакратара ЦК КП(б)Б знаходзіўся ўраджэнец Кастромскага павету А. Асаткін-Уладзімірскі (май - жнівень 1924), якога затым замяніў Аляксандр Крыніцкі (верасень - май 1927), дзіцячыя і юнацкія гады якога прайшлі ў Цьверы. Апошні з іх за гранічна сьціслы тэрмін так авалодаў беларускай мовай, што чытаў на ёй свае даклады. Свабодна карыстаўся, любіў беларускае слова першы сакратар ЦК КП(б)Б Іван Гамарнік (лістапад 1928 - кастрычнік 1929), радзімай якога быў украінскі горад Жытомір. Іх ролю ў трыумфальным шэсьці беларусізацыі ніяк нельга перабольшыць. Ідэя беларускага нацыянальнага Адраджэньня зусім была ня чужой для многіх з тых, каго лёс закідваў у наш край, што садзейнічала ўсталяваньню сапраўднай дружбы паміж яго карэнным насельніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі.

З найлепшага боку паказала сябе інтэлігенцыя Менску і асабліва тая яе частка, што працавала ў сыстэме Інстытуту беларускай культуры, а затым у Беларускай акадэміі. Без яе не абыходзілася ні распрацоўка самой канцэпцыі палітыкі беларусізацыі, ні складаньне рознага роду нарматыўных актаў, неабходнасьць зьяўленьня якіх дыктавалася практыкай вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў БССР. Тут у першую чаргу трэба адзначыць плённую тэарэтычную і арганізацыйную дзейнасьць Усевалада Ігнатоўскага, Уладзіміра Пічэты, Вацлава Ластоўскага, Сьцяпана Некрашэвіча, Язэпа Лёсіка.

У лістападзе 1926 году Менск зьявіўся месцам правядзеньня Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. У яе працы бралі ўдзел ня толькі вучоныя Масквы, Петраграду, Харкава, але і Бэрліна, Варшавы, Рыгі, Вільні. Каб хоць частку выказаных на ёй слушных прапаноў улічылі пры прыняцьці ў жніўні 1933 году пастановы Савету Народных Камісараў "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу", наша мова не панесла-б такіх істотных стратаў у сваёй самабытнасьці і арыгінальнасьці. Пакуль доўжылася Канфэрэнцыя, яна была ў цэнтры ўвагі ня толькі менчан, але і грамадзкасьці іншых гарадоў. Гэтую прыемную зьяву так адзначыў у сваім заключным слове старшыня Інбелкульту У. Ігнатоўскі: "Мы не забылі беларускай мовы, чаго баяўся Багушэвіч... Мы павінны вызначыць вялікую зацікаўленасьць працамі Канфэрэнцыі з боку шырокіх рабоча-сялянскіх мас Беларусі. Нашы пасяджэньні заўсёды мелі шмат гасьцей, асабліва вечарамі. Некаторыя з іх прасілі нават слова. Газэты нашы, у якіх апісвалася дэтальна праца Канфэрэнцыі, чыталіся нарасхват і пасьля прачытаньня хаваліся ў прыватных бібліятэках". Сёньня толькі можна пазайздросьціць той агульнанароднай любові да свайго роднага слова, таму месцу, якое яно займала ў жыцьці беларускай сталіцы і іншых гарадоў рэспублікі. І ўсё гэта, несумненна, толькі дзякуючы правільнаму рэгуляваньню моўнымі працэсамі з боку дзяржаўных органаў, што знаходзіла поўную падтрымку ў народзе.

У мэтах замацаваньня і дасягненьня далейшых посьпехаў у справе беларусізацыі грамадзкасьць Менску выкарыстоўвала самыя розныя формы прыцягненьня да яе масаў. Практыкывалася і давала добрыя вынікі стварэньне спэцыяльных рабочых брыгадаў па праверцы стану беларусізацыі на паасобных прадпрыемствах і ва ўстановах. Пра выяўленыя пры гэтым негатыўныя факты паведамлялася ў пэрыядычны друк, ставіліся да ведама адпаведныя партыйныя і савецкія органы гораду. У час адной з такіх ліпеньскіх праверак 1930 году ўдалося ўстанавіць, што па віне кіраўніцтва менскага клуба мэталістаў, якое непрыхільна ставілася да беларусізацыі, тут у бібліятэцы з агульнай колькасьці 10 тыс. кніг толькі 150 экзэмпляраў мелася на беларускай мове. Не жадалі займацца прапагандай беларускай кнігі ў сыстэме Белжылсаюзу. Шпалерная фабрыка не атрымлівала ніводнай газэты на беларускай мове. Пасьля таго, як, дзякуючы друку, пра вопыт менчан даведаліся ў іншых гарадах, і ў іх пачалі ствараецца рабочыя брыгады па праверцы стану

беларусізацыі, што станоўча адбівалася на яе выніках.

Менск даў прыклад усёй рэспубліцы ў вырашэньні такой лёсавызначальнай праблемы, як стварэньне нацыянальнай сыстэмы адукацыі. Бадай, больш складанай задачы ў час беларусізацыі не існавала. А складанай яна была таму, што ў нас выхаваньне і навучаньне маладых пакаленьняў на працягу стагодзьдзяў ажыцьцяўлялася на чужых культурна-моўных пачатках і гістарычных традыцыях, у выніку чаго адукацыя з жытніцы беларускага народу ператўварылася ў яго грабніцу. Першымі пачалі рашуча адмаўляцца ад такой заганнай практыкі, скіраванай на асыміляцыю беларускага народу, менчане. Жывучы ў сталіцы, яны неяк больш і лепш за астатніх разумелі сваю адказнасьць за лёс усяго беларускага народу, вызначаліся больш высокім узроўнем нацыянальнай самасьвядомасьці, чым насельніцтва іншых гарадоў. Па прапанове перадавой, самай прафэсійна-кваліфікаванай часткі пэдагагічнай інтэлігенцыі сталіцы на шлях нацыянальнай адукацыі станавіліся не якія-небудзь яе паасобныя зьвеньні, а ўсе без выключэньня тыпы навучальных установаў, што адразу-ж зьняло праблему культурна-моўнай пераемнасьці паміж імі. Зразумела, тэмпы беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу самымі высокімі былі ў агульнаадукацыйных школах. У вызначаныя тэрміны пераходу на беларускую мову ў асноўным укладваліся сярэднія спэцыяльныя навучальныя ўстановы. Пэўныя цяжкасьці, — дзе аб'ектыўнага, а дзе суб'ектыўнага характару — меліся ў вышэйшай спэцыяльнай школе, у тым ліку і ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. На першым часе яго беларусізацыя стрымлівалася тым, што тут быў параўнальна невысокі працэнт беларусаў як сярод прафэсарска-выкладчыцкага складу, так і студэнтаў. Антынацыянальны характар адукацыі ў дарэвалюцыйнай Расіі, з прычыны чаго Беларусь не рыхтавала кадры вышэйшай кваліфікацыі, не вельмі проста аказалася пераадолець за такі кароткі час.

Дасягнутыя на самым пачатку беларусізацыі посьпехі ў стварэньні нацыянальнай сыстэмы адукацыі істотным чынам паўплывалі на моўную сытуацыю ў Менску. Асабліва гэта адчувалася на моладзі. Наведваючы беларускамоўныя навучальныя ўстановы, яна і ў вольны час у якасьці сродку зносін паміж сабой выбірала не якую-небудзь іншую, а толькі беларускую мову. Мала што так садзейнічала росту прэстыжнасьці апошняй, як выкарыстаньне яе студэнцкай моладзьдзю ў публічных месцах. Людзей зусім перастала зьдзіўляць, што на іх роднай мове гавораць з імі высокія дзяржаўныя асобы, кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, інжынеры, настаўнікі, лекары, што на іх мове ідуць мастацкія кінафільмы, вядзецца амаль уся гарадзкая наглядная інфармацыя. Менск набываў сапраўднае беларускае нацыянальнае аблічча, што кідалася ў вочы ўсім і асабліва тым, хто яшчэ нядаўна ведаў гэты горад зусім іншым, далёкім ад беларускасьці.

У 20-я гады і трохі пазьней наша рэспубліка не была закрыта ад наведваньня замежнымі гасьцямі. Найбольш за ўсё яны імкнуліся пазнаёміцца з яе сталіцай, па якой складвалі свае ўражаньні аб беларускім нацыянальна-культурным Адраджэньні ў цэлым. Нікога яно так ні радавала, як гасьцей са славянскіх краін і перадусім Чэхаславакіі, якая яшчэ сама зусім нядаўна вырвалася з вострых і моцных кіпцюроў анямечваньня. Не прамінуў выпадку завітаць у 1927 годзе ў Менск вядомы чэхаславацкі грамадзкі і дзяржаўны дзеяч, вучоны Здэнак Неедла (1878 - 1962). Наш шчыры сябра застаўся вельмі рады, што і яшчэ адзін славянскі народ — беларускі ўпэўнена вяртаецца да свайго прыроднага, нацыянальна-самабытнага жыцьця. "Наша этнаграфія, — пісаў ён, — колькі часу спрачаецца, ці існуе беларускі народ, ці не. Але навошта гэтыя непатрэбныя спрэчкі. Аб існаваньні беларускага народу найлепш сьведчыць факт існаваньня незалежнай беларускай дзяржавы, факт існаваньня беларускай культуры, якая разьвіваецца надзвычайна шпаркім тэмпам". Вялікім дасягненьнем ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня на Беларусі З. Неедла лічыў, што тут ужо 71 працэнт школаў працавала на беларускай мове. Выйдзем сёньня на такі рубеж у нацыянальным адбудаваньні Менску і Беларусі, напэўна-ж, пачуем не менш ласкавыя словы пахвальбы і ад сучасных дзяржаўных, навуковых, культурных дзеячаў славянскіх народаў. Як-бы архіцяжка ні было паставіць Менск на ўласныя нацыянальныя рэйкі, выратаваць яго ад культурна-моўнай асыміляцыі, трэба ўсё-ж неадкладна, усёй грамадой брацца за зьдзяйсьненьне гэтай высокароднай справы. Посьпехі Менску, як ні што іншае, спрыяльна адаб'юцца на ходзе нацыянальна-культурнага адраджэньня усяго беларускага народу.

Беларусізацыя жыцьця Менску нікольki не падарвала нацыянальных інтарэсаў прадстаўнікоў іншых народаў, што атабарыліся ў гэтым горадзе. Тут нікольki не занепалі ні руская, ні габрэйская, ні польская культуры, паўсюдна гучала родная мова гэтых народаў. Такое-ж назіралася і ў іншых гарадох. Нават у самы пік беларусізацыі, які прыпаў на канец 20-х — пачатак 30-х гадоў, адсутнічалі ўсякія факты гвалтоўнай беларусізацыі дзяржавай некарэннага насельніцтва. Засваеньне беларускай культуры і мовы такім насельніцтвам адбывалася выключна добраахвотным шляхам. У 1929/30 н. г. у рэспубліцы існавала 481 школа-чатырохгодка і 117 сямігодак на роднай мове нацменшасьцяў, у тым ліку габрэйскіх — 225, польскіх — 159, рускіх — 136, латыскіх — 21, летувіскіх — 11, украінскіх — 10, нямецкіх — 4, эстонскіх — 2. Удзельная вага беларускіх школаў у агульным ліку такіх тыпаў навучальных установаў адпавядала долі карэннага насельніцтва ў складзе ўсіх жыхароў рэспублікі.

Беларусізацыя, мазгавым цэнтрам якой ад пачатку і да канца па праву зьяўляўся Менск, выводзіла беларускі народ на шырокі прасьцяг нацыянальна-культурнага Адраджэньня. Упершыню за апошнія два з палоавю стагодзьдзі над гэтым дазваньня спакутаваным народам не вісеў дамоклаў меч культурна-моўнай асыміляцыі. У рэальнасьць выратаваньня беларусаў ад канчатковай дэнацыяналізацыі паверылі і ў БССР, і ў ва ўсім Савецкім Саюзе. Але не ўсім яно было даспадобы. Каб спаралізаваць адраджэнскі рух, трэба было абняславіць, загнаць у стан ворагаў пралетарскай рэвалюцыі, савецкай улады самых уплывовых і аўтарытэтных людзей сярод беларусаў. І ўсё гэта ідэалягічнаму апарату ЦК КП(б)Б, які дзейнічаў у адпаведнасьці і па ўказцы партыйнага штабу ў маскоўскім Крамлі, удалося выканаць на выдатна. Менск з адраджэнскага цэнтру ператўварыўся ў сапраўдны палігон змаганьня з т. н. нацыянал-дэмакратамі, якіх абвінавачвалі ў падрыве нацыянальнай палітыкі партыі, варожасьці да сацыялізму. А яны-ж былі красой беларускага народу. Разгортваньне барацьбы з "нацдэмакратызмам" паклала пачатак канца беларусізацыі і акурат з Менску наносіліся па ёй самыя руйнуючыя ўдары.

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафэсар.*



# Менталітэт — справа далікатная

"ЛіМ"

У пралетарскім гімне ёсць афарыстычныя словы: "Кто был ничем, тот станет всем". Не ведаю, ці так яно гучыць у французскім арыгінале, але ў кананічным перакладзе на рускую мову гэтыя словы канцэнтруюць сэнс ваяўнічай песні "галадранцаў усіх краін". Калі прыняць прыгаданыя словы на веру і ўспрыняць іх як непазбежную перспектыву (прычым, у сусветным маштабе!), дык варта жахнуцца і паспачуваць нашчадкам.

У гісторыі безліч выпадкаў, калі сітуацыя, выкліканая разбурэннем звыклага грамадскага і жыццёвага ладу, выносіла на вяршыню ўлады нікім не прагназаваных лідэраў. Для таго з іх, хто над усім меў пераважнае жаданне толькі махаць шабляй, мірныя справы заўсёды здаваліся сумнымі і нецікавымі. Так людзі, што прыйшлі з вайны, часта не могуць знайсці сябе ў мірным будаўніцтве, увесь час шукаюць бойкі і, не знаходзячы, правакуюць яе самі. Гэта не толькі менталітэт, не толькі рыса характару, але і цвярозы разлік: "рэвалюцыйная ўлада" аб'ектыўна зацікаўлена ў пашырэнні фронту "класавай барацьбы", бо пры стабілізацыі сітуацыі яна губляе электарат. Толькі ствараючы новых і новых ворагаў, можна здзейсніць стары як свет прынцып "падзяляй і пануй".

У нашай краіне выканаўчая ўлада заносіла ў намінацыю "ворагі" апазіцыю БНФ у папярэднім Вярхоўным Савеце, потым Вярхоўны Савет увогуле, потым, з-за адсутнасці ў Вярхоўным Савеце XIII склікання сяброў БНФ, сацыял-дэмакратаў і "грамадзян", потым усіх дэпутатаў, хто стаяў за Канстытуцыю 1994 года, цяпер ідзе гаворка аб магчымым роспуску "Нацыянальнага сходу".

Пабывалі "ў ворагах" прадпрымальнікі, свабодныя прафсаюзы, банкіры самых розных рангаў, міністры абароны і ўнутраных спраў і, зразумела, "нячэсныя" журналісты.

Ва ўсім свеце (маецца на ўвазе цывілізаваная частка свету) журналістаў у часе дэманстрацый паліцыя ахоўвае, у нас жа акрэдытацыйная картка на шыі і фоткамера ў руках для міліцыі,— гэта ўжо, як кажуць, "наводка". Але тое, што ўлады здзейснілі ў адносінах да Паўла Шарамета і ягоных калег з ГРТ, нават для нашых палітычных шырот успрымаецца як нонсенс.

Канфлікт набыў міжнародны рэзананс, у яго аказаліся ўцягнутымі Летува і Расія. І хоць для расійскіх уладаў геапалітычныя інтарэсы даражэй за чалавечыя жыцці (што яскрава паказала вайна ў Чачні), у дадзеным выпадку расійскі прэзідэнт, ратуючы свой твар, быў вымушаны санкцыянаваць жорсткія заявы ў адрас беларускага кіраўніцтва; празрыста намякнуць, што такімі дзеяннямі самы блізкі саюзнік стварае для Расіі, яе міжнароднага іміджу праблемы; што, зрэшты, магчымыя санкцыі... І гэта, дарэчы, у той момант, калі Масква адным паваротам "газпромаўскага" вентыля мае, здавалася б, магчымасць спыніць усю беларускую прамысловасць.

Здавалася б, ну колькі чытачоў у той незалежнай і адносна незалежнай беларускай прэсы? "Электарат" не чытае "Свабоду", а пра "Белорусскую деловую газету" альбо "Нашу Ніву" дык, мабыць, і не чуў. Па ГРТ электарат глядзіць толькі "мыльныя" серыялы. Чаго хваляваца? Але сама наяўнасць альтэрнатыўнай думкі, думкі, адрознай ад ягонай асабістай, для чалавека, выхаванага савецкім ладам, здаецца крыміналам.

Ва ўмовах летняга зацішша на мінскіх вуліцах улада сама правакавала апазіцыю да актыўнасці. Сведчанне гэтаму — мітынг у абарону свабоды слова, што адбыўся ў мінулую суботу. Ад людзей, перажыўшых вайну, я чуў, што партызанскі рух, супраціўленне нарадзілася зусім не з савецкага патрыятызму, а як рэакцыя на жорсткасць акупантаў. Яна прымушала брацца за зброю нават тых, хто напачатку ўспрыняў прыход германскага вермахта як вызваленне ад калгаснага ярма.

Без аніякіх паралеляў я проста нагадваю гісторыю. Менталітэт — справа далікатная. У часе другой сусветнай вайны ад традыцыйнай беларускай "ціхамірнасці" і памяркоўнасці нават каліва не засталося.

Статус журналіста нібыта прадугледжвае неўмяшанне ў палітыку на чыімсьці баку, бо палітычная заангажаванасць вядзе да тэндэнцыйнасці ў асвятленні падзей. Але самі ўлады амаль штодзённа прымушаюць журналістаў рабіць выбар, а для тых з іх, хто адлавядае прафесіі, выбар гэты заўсёды будзе на карысць свабоды слова.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**



# АМАЛЬ ТРЭЦЬ БАЦЬКОЎ ВІЦЕБСКІХ ПЕРШАКЛАСНІКАЎ ХОЧА, КАБ ІХ ДЗЕЦІ НАВУЧАЛІСЯ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Паводле папярэдніх дадзеных абласнога Упраўлення адукацыі, амаль 60 працэнтаў сённяшніх першакласнікаў Віцебшчыны — ва ўзросце шэсць гадоў. Каля трэці — 32,7 працэнта — бацькоў першакласнікаў выказалі жаданне, каб іх дзеці навучаліся на роднай беларускай мове. Усяго ж у беларуска-моўных класах вобласці сёння селі за парты амаль 26 працэнтаў вучняў. Праўда, у асноўным гэта вучні пачатковых і базавых школ сельскай мясцовасці.

**Яўген ГАЙ, БелаПАН.**

# 480-годдзе БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

Звязда

**6 жніўня 1517 г. у свята Св. Праабражэння Ісуса Хрыста ў «Старым месцы Празе» была надрукавана невялікая па сваіх памерах, незвычайная па сваім мастацкаму выгляду, шрыфтах і моўных асаблівасцях кніжка «Песни царя Давыда, еже словуть Псалтыр». Пачалася доўгая і складаная гісторыя беларускага і ўвогуле ўсяго ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Значна пазней на надмагільным камені заснавальніка рускага і ўкраінскага кнігадрукавання Івана Фёдарава, які сумесна са сваім паплечнікам беларусам Пятром Мсціслаўцам у 60-х гадах XVI ст. асталяваўся на землях Вялікага княства Літоўскага, была глухавата зазначана гэтая пераемнасць ад Скарыны: «друкованe занедбалое обновил...».**

ЕЎРАПЕЙСКІЯ ПЕРШАДРУКАРЫ выдатна адчувалі водар новай эпохі, які неслі з сабой іх творы. Яны бачылі ў іх святло боскай навукі, адраджэнне хрысціянскіх запаветаў, маральнасці, чысціні, прыгажосці, бясконцае пашырэнне светагляду замкнёнага ў сваіх працах, патрэбах, бядотах і пострахах чалавека. Яны падавалі яму надзею на «душнае (духоўнае) збаўленне», справядлівае, карыснае і цнатлівае грамадскае жыццё, адраджэнне і росквіт сваёй радзімы.

Шмат якія рысы выдзяляюць пражскія выданні Скарыны ў параўнанні з заходнееўрапейскімі і пазнейшымі беларускімі і славянскімі друкамі.

Маскоўскія першадрукары ў сярэдзіне XVI ст. пачыналі з кніг Новага Запавету. Скарына намерваўся выдаць усю Біблію, што было апостальскі цяжка і небяспечна. Большасць духоўных іерархаў у тыя ератычныя і раскольныя часы не падтрымлівалі намеру выдання ўсяго зводу біблейскіх кніг. У пісьмовай спадчыне ўсходнеславянскіх краін нават рукапісныя кнігі Бібліі, асабліва Старога Запавету, доўга заставаліся рэдкай з'явай. Не захаваўся ніводны цэласны рукапісны звод Бібліі, створаны на землях Беларусі ці Украіны ў даскарынаўскі перыяд. Не было яшчэ ні шматлікіх пазней паперняў, ні навыкаў кнігадрукарскага рамяства і вытворчасці. Але існавалі даўнія традыцыі царкоўна-манастырскіх скрыпторыяў, разнастайнай духоўнай і свецкай літаратуры, пісьменнасці, іканапісу, гравёрнага, ювелірнага майстэрства, незвычайнай грамадскай павагі да кнігі і яе творцаў. Якая прыўзнятасць і святочнасць адчуваецца, напрыклад, у прадмове да вялікіх слуцкіх Евангеляў XVI ст., якія пачынаў чарнілам і золатам сам слуцкі князь Юрый Алелькавіч. А ў першай палове XVII на Палессі ў Смядыні адзін з простых свяшчэннікаў з годнасцю паказваў свайму па еўрапейскаму адукаванаму пастыру, кіеўскаму мітрапаліту Пятру Магіле старажытныя кодэксы. Рукапісная кніга на Беларусі (у адрозненне ад многіх іншых еўрапейскіх краін) доўга існавала побач з друкаванай, дапаўняла і разнастаіла яе.




Тытульны аркуш віленскага Псалтыра Скарыны.

Па розных прычынах першае кнігавыдавецтва Скарыны ўзнікла на землях Чэшскага каралеўства ў Празе. Напэўна, беларускія пачынальнікі памяталі не зусім удачлівае прадпрыемства немца Швайпольта Фіёля, які ў канцы XV ст. спрабаваў наладзіць, у Кракаве друкаванне кірылічных кніг. Магчыма, на іх выбар паўплывалі ўскладнёныя этна-рэлігійныя і палітычныя абставіны ў Польшчы, высокі ўзровень манапалізацыі кнігадруку, але Чэхія на той час спадабалася ім болей. Тут існавалі даўнія традыцыі кнігадруку, біблейскай пісьменнасці, рэлігійная талерантнасць, з чэшскімі землямі падтрымлівалі сталыя гандлёвыя сувязі многія суайчыннікі Скарыны, у т. л. яго апекуны і крэдыторы. Тут у Празе фармальна з 1517 па 1519 год, фактычна з сярэдзіны другога дзесяцігоддзя і ўключна па 1520 год, ён выдаў 23 кнігі Бібліі.

Першым творам новага прадпрыемства Скарыны, звестуном новай эпохі быў Псалтыр — найбольш распаўсюджаная і патрэбная кніга амаль ва ўсіх еўрапейскіх тагачасных краінах, звод святочных і ўзнёслых прыгожых псалмаў і песняў, прысвечаных Усявышняму, аўтарства і складанне якіх прыпісвацца старажытнаму біблейскаму цару Давіду. Псалтыр выкарыстоўваўся ў літургіі і пазахрамавых царкоўных службах, пачатковых свецкіх і царкоўных школах, літаратуры, мастацтве, асабістых надзённых малітвах і чытанні. Як пісаў Скарына ў прадмове да свайго першаца: «Псалтыр сама едина вси тые речы в собе замыкаеть, и всех тых учить и все проповедуеть. ... Покой денным суетам и роботам. Защититель младых и радость старым, потеха и песня, женам набожныя молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, доросльм помножение в науце, мужем моцное утвержение».

Не выпадкова Псалтыр з паследаваннем стаў асновай першага друкаванага выдання Скарыны на Айчыне — у стольным градзе Вялікага княства Літоўскага Вільні, дзе ён выйшаў каля 1522 г. пад назвай «Малой падарожнай кніжкі». Пазнейшыя прадаўжальнікі Скарыны, брацкія віленскія кнігадрукары так адзначылі шырокае прызначэнне «малых падарожных кніжак»: «Потребны есть господареви и челядникови дома, рамесникови на варстате, крамареве при краме, купцу и пелгримови в дорозе, жолнерови в тягнению и на войне, жегляреви воде, мнихови в целли, а священникови дома и в церкви. И всим згола на каждый день и час, и всюды...».

Ужо ў першых пражскіх друках Скарыны знайшлі яскравае адбіццё рэнесансавыя, асветніцкія, дэмакратычныя і гуманістычныя тэндэнцыі, — выданне кніг Бібліі для шырокага свецкага і царкоўнага ўжытку, для ўсяго паспалітага люду, выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы, своеасаблівы пераклад біблейскіх тэкстаў па розных крыніцах. У яго выдатных аўтарскіх прадмовах і каментарыях асвятляюцца грамадскія, сацыяльныя, прававыя, этычныя, эстэтычныя ідэалы, яны пранікнуты шчырай любоўю да радзімы, павагай да іншых народаў і іх культурнай спадчыны, бясконцую веру ў жыццёвае і боскае прызначэнне чалавека. Бо, як адзначана ў пражскім Псалтыры (паводле слоў ап. Паўла): «Да совершен будеть Человек божий и на всяко дело добро уготован».

Псалтыр 1517 г. — найбольш рэдкая з усіх кніг Скарыны. Яна захавалася ў двух няпоўных экземплярах — у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Пецярбургу і ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Рэдкасць старажытных друкаў звычайна сведчыць аб іх «зачытанасці», зношанасці, папулярнасці. На пражскіх экземплярах Псалтыра захаваліся пераважна ўладальніцкія і чытацкія паметы простага паспаліта люду, свяшчэннікаў, нават рускага селяніна Пашэхонскага ўезду вотчыны Кірылава манастыра Лагіна Матвеева (XVIII ст.). Напэўна з падачы аднаго з крэдытораў Скарыны — заможнага беларускага гандляра, арандатара некалькіх карчом, пазначана чарнілам яго роля ў падрыхтоўцы выдання: «то ся стало накладом Богдана Онкава, сына радци места Виленского».

Адзін з віленскіх Псалтыроў Скарыны захаваў непрыкмечанае даследчыкамі, мабыць, найбольш ранняе і цікавае апісанне апошніх хвілін жыцця і пограбу троцкага ваяводы Януша Гальшанскага. Дарэчы, гэты запіс дазваляе ўдакладніць і невядомую гісторыкам дату канчыны аднаго з выдатных прадстаўнікоў княжацкага рода, услаўленага пазней ў знакамітых раманах Караткевіча.

Семя, пасеянае Скарынам не прапала. Яно ўзыйшло новымі ўсходамі і абліччамі ў друкарскай дзейнасці Брэсцкага, Нясвіжскага, Лоскага выдавецтваў, расквітнела ў творчасці Гусоўскага, Буднага, Цяпінскага, брацкіх кнігавыдаўцоў і пісьменнікаў, ва ўсёй вялікай і незвычайнай бліскучай спадчыне беларускага Адраджэння XVI ст. Нягледзячы на тое, што кнігадрукаванне ў наступныя стагоддзі выкарыстоўвалася (як і зараз) з рознымі мэтамі, у цэлым яно перамагала цемру і забабоны, служыла людзям, ствараючы чалавека цэласнага, свядомага, з годнай гістарычнай і чалавечай памяццю, чалавека разумнага ў поўным і прыўзнятым сэнсе гэтага слова. Гэта сапраўдны запавет нашага вялікага суайчынніка.

**Георгій ГАЛЕНЧАНКА,**
**заг. аддзела Інстытута гісторыі Нацыянальнай АНБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

## *ЗАКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ*

**Прадстаўнікі Беларускага аддзялення Фонду Сораса 3 верасня афіцыйна аб'явілі на прэс-канферэнцыі аб спыненні дзейнасці Фонду на тэрыторыі Беларусі. Навіна гэтая стала калі не сенсацыйнай, дык беспрэцэдэнтнай. Прадстаўнікі БФС да апошняга дня вялі перамовы з беларускімі ўладамі з мэтай зняць беспадстаўныя абвінавачванні, якія былі прад'яўлены Фонду. Аднак рашэнне, якое задавальняла б абодва бакі, так і не было знойдзена. І Беларускі Фонд Сораса, які за тры гады сваёй дабрачыннай дзейнасці на Беларусі ўклаў у гуманітарныя праграмы 13 мільёнаў долараў, вымушаны быў аб'явіць аб сваім закрыцці... Такім чынам, Беларусь стала адзінай краінай на прасторах былога СССР, якой Фонд Сораса не будзе дапамагаць. Міністр замежных спраў Беларусі І. Антановіч, які прымаў удзел у перамовах, адразу пасля абвяшчэння рашэння БФС аб закрыцці заявіў, што працэдура закрыцця БФС павінна ажыццяўляцца па беларускіх законах і што 3 мільёны долараў "падатку" БФС давядзецца выплаціць... Джордж Сорас, у перададзенай на Беларусь заяве, выказаў сваё шкадаванне ў сувязі з закрыццём БФС, падзякаваў супрацоўнікам БФС за сумленную працу і прафесіяналізм і выказаў надзею, што дзейнасць Фонду ў Беларусі будзе адноўлена.**

***Верш В. Вярбы*** **РУЧНІКІ** ***Музыка М. Пятрэнкі***




У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?
— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не мучы мне толькі чыстае вады. —
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь.
Пацалуй спачатку, што як утаплюсь?
Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалаваў Алёну Янка над вадой.
Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі,
По рацэ далёка ручнікі плылі... } 2 р.

# ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ
## Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Лёндане.

10-га жніўня 1997 г. у царкве сьв. апосталаў Пятра і Паўла, Marian House, Holden Ave., London, England, была адслужана сьв. Літургія і ўдзячны малебень з удзелам беларускіх сьвятароў з Бацькаўшчыны, — з нагоды 50-ці годзьдзя (Залаты Юбілей) заснаваньня ў Лёндане Беларускай Каталіцкай Місіі.

Царква была перапоўнена прыхажанамі і гасьцямі. Літургія пачалася а 10.30 якую ўзначаліў рэктар Місіі а. А. Надсон у саслужэньні 6-ці сьвятароў, што прыбылі з Беларусі. Служба адбывалася на роднай беларускай мове. Высока патрыятычную пропаведзь сказаў а. Я. Матусевіч з Менску. Пасьля Літургіі адслужыўся малебень удзячнасьці за Місію і Беларусь. Багаслужба закончылася рэлігійным гімнам "Магутны Божа..."

Прысутных запрасілі на прыняцьце і спатканьне з гасьцямі з Беларусі ў залі пры бібліятэцы Ф. Скарыны. Прывітальнае слова сказаў а. А. Надсон. Вітаў ён ад імя Місіі прысутных сьвятароў з Бацькаўшчыны і падзякаваў ім, што змаглі прыехаць, каб разам з лёнданцамі адсьвяткаваць такую важную гадавіну Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане. Цікавым быў кароткі пераказ гісторыі заснаваньня Місіі, пачынаючы ад сьв. пам. Біскупа-Уладыкі Чэслава Сіповіча да сяньняшніх дзён.

Каталіцкая Місія ў Лёндане заўсёды была і ёсьць цэнтрам беларускасьці ў Англіі.

Віталі Місію і яе рэктара: ад Англа-Беларускага Таварыства — Сп. Т. Пікарда, ад Грэка-Каталіцкай Царквы на Бацькаўшчыне — а. Я. Матусевіч, ад ЗБВБ. — старшыня Спд. Л. Міхалюк і ад прыхаджанаў — Спд. Вера Рыч. Прысутныя паднялі кілішкі віна і засьпявалі рэктару Місіі "Многія Лета".

Прыема было прысутнічаць на гэтай урачыстасьці і бачыць, што мінаючы розныя перашкоды Лёнданскія беларусы не забываюцца пра лёс свае Бацькаўшчыны.

С. Будкевіч, Лёндан.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Высокапаважаны Спадар Прускі!

Пасылаю Вам ахвяру на выдавецкі фонд «Беларускага Дайджэсту».

Жадаю Вам посьпехаў і сілы ў Вашай цяжкай, але сапраўды высакароднай працы на карысьць волі Беларусі.

Няхай вольнае слова, напісанае супраць узурпатараў нашае Бацькаўшчыны, не пакідае быць трыбунаю свабоды ў адраджэнскім руху Беларусі.

З пашанаю, Ваш Р.З.

*Дзякую за ахвяру і натхняючыя да дзейнасьці словы.*

Вельмі паважаны Сп. Прускі!

Калі ў месяцы ліпені я быў у Нямеччыне, усе сродкі масавай інфармацыі шмат пісалі аб падзеях навокал канфлікту ў сувязі з арыштам супрацоўнікаў расейскага TV у Беларусі.

Пасылаю адзін з нямецкіх артыкулаў; расейскія сродкі таксама ўдзялілі шмат часу гэтаму no good for nothing Лукашэнку... Vox populi, vox Dei! Народ пераможа! Жыве Беларусь!

Я. Б.

*Дзякую за вельмі цікавы артыкул, ахвяру і здымку. Здымку затрымаем у нашым архіве.*

В. П. Сп. Рэдактар!

Шчыра дзякую за рэгулярна прысыланую мне Вашу газэту, якая вельмі добра інфармуе аб сучаснай беднай сытуацыі ў незалежнай, сувэрэннай? Беларусі.

Маленькі дыктатар-тыран з хваравлівай мэгаламаніяй на маскоўскім пастронку, які моцна трымаюць у сваіх руках расейскія імпэрыялістышавіністы, ды пры дапамозе нашых бесхрыбетных халуёў-карытнікаў, сыстэматычна ліквідуе беларускую дзяржаўнасьць.

Як доўга абтуманены народ зможа цярпець гэткі зьдзек?

Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд "Б. Д." з найлепшымі пажаданьнямі.

З пашанай, У. Н.

*Сапраўды, сытуацыя на Беларусі дзівугодная. Але-ж няма таго дрэннага, каб пазьней ня выйшла на добрае... Дзякуем за ахвяру і просім нас не забываць.*

Паважаны Сп. Прускі!

У залучэньні перасылаю ахвяру на "Б. Д." Бачу шмат пахвальных лістоў да Вас, але-ж, як кажуць, салаўя песьнямі ня кормяць. Хацелася-б дапамагчы шмат больш, аднак жыцьцё не ўкладаецца так, як яго плянуеш, нажаль, прыходзіцца заносіць апошнія грошы ў аптэкі.

Жадаю Вам і сям'і добрага здароўя і ўсяго найлепшага ў будучыні.

З глыбокай пашанай, М. С.

*Дзякуем за ахвяру і жадаем Вам моцнага здароўя і вытрымаласьці.*

Шаноўны Спадар Мікола!

Зьвяртаюся да Вас з вялікай просьбай. Ужо многа гадоў я шукаю свайго роднага брата **Аляксандра Феліксавіча Галяшэвіча**, які прапаў без вестак у час Другой сусьветнай вайны.

Прашу апублікаваць ў Вашым, папулярным сярод замежжа, выданьні гэту просьбу: магчыма, мой брат, калі жывы, сам адгукнецца, а, магчыма, нехта са сваякоў і знаёмых, хто добра ведае ці мог ведаць яго ў эміграцыі, не пакінуць маю просьбу без адказу...

З павагай і ўдзячнасьцю, А. Баранцэвіч.

*Просім усе весткі накіроўваць на адрас нашае рэдакцыі. Дзякуем!*

Дарагі Мікола!

Дзякую за газэту. Выглядае, што ў газэце выкарыстоўваецца дзьве граматыкі: Тарашкевіча і падсавецкая. Відаць, так і будзе пакуль не пагоняць клоўна-Лукаша...

Часам не магу разшыфраваць скарочаныя назовы ўжываныя прэсай з Бацькаўшчыны, як напрыклад: АМАП(АМ), ВПК, АДПУ і шмат іншых. Ці можна падаваць поўны назоў падобных скарачэньняў? Прашу ўзяць пад увагу маю заўвагу. Бывай здароў. Твой зямляк, К. В.

*У першую чаргу, дзякуем за ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Заўвагу адносна розных скаротаў прымаем да ведама. Усяго найлепшага!*

Вельмі Паважаны Спадар Прускі!

Дзякую за газэту. Газэта "Беларускі Дайджэст" рэдагуецца цікава, але ёсьць артыкулы, якія нялёгка зразумець. Шкада, што мала чытачоў і ахвярадаўцаў. Цікава ці лік іх хоць трохі павялічвацца? Я сам, хоць чытаю "Дайджэст" з прыемнасьцю, — мала памагаю матэрыяльна, бо цяжкая хвароба вельмі шмат каштуе, асабліва мэдыцына. Але колькі змагу, буду памагаць... Далучаю ахвяру.

Жадаю вытрымаласьці ў Вашай нацыянальнай дзейнасьці і ўсяго найлепшага ў будучыні.

З глыбокай пашанай астаюся Ваш, М. Т.

*Лік чытачоў нашае газэты памалу пабольшваецца, але магло-б быць шмат лепш. Добра было-б, каб кожны наш чытач пастараўся прыдбаць для нас новых ахвярадаўцаў і чытачоў. Беларускае Замежжа даволі багатае, але... самі ведаеце... Дзякуем за ахвяру на выдавецкі фонд. Жадаем усяго найлепшага.*

# Совковые грезы

*Народная Воля*

## Куда несет нас рок событий?

*Владимир Юдин*

...В разгар президентской кампании газета "Свабодныя прафсаюзы" опубликовала мою корреспонденцию "Семь раз отмерь...". В ней я упоминал кухарок, управляющих страной 70 лет. Ссылался на Сталина, расстрелявшего генералов и доверившего капитанам командовать дивизиями в войне. Помянул Хрущева, который назначил директора совхоза министром сельского хозяйства — во всех случаях результаты были плачевны. "Боязно, как бы республика ни стала единым колхозом имени Лукашенко", — заключил я в публикации.

Выступая по Белорусскому телевидению в новом амплуа, Александр Григорьевич деланно оскорбился, мол, как мог журналист предрекать такое? А у меня екнуло сердце: ни за понюшку табаку пропадет страна, хлебнем горюшка! Не верилось, что он открестится от "завоеваний социализма" и поведет строительство новой Беларуси: новое дело должны делать новые люди — истина известная. А что за душой у Лукашенко? За 20 лет сменил десять мест работы, прослыв у кадровиков летуном. Из них 15 лет просидел на идеологическом обеспечении народа, выдавая белое за черное и наоборот.

Так и произошло! Плоть от плоти воспитанник "самого передового", Лукашенко устрашился перемен. И, сумев добиться сверхцарских полномочий, продолжает дело, образно говоря, Ленина — Сталина. Материальную и морально-психологическую тяжесть от его трехлетнего царствования ощущают даже государственные мужи. И плывет белорусский корабль без руля и ветрил. Как и следовало ожидать, приплыл в море нищеты, бесправия, страха и лжи: капитан ведет судно по знакомому ему курсу — социалистическому.

Но что же теперь — кусать локти и казнить себя за детскую доверчивость на президентских выборах и референдумах? Надобно крепко думать, как быть — строить жизнь, достойную человека, или довольствоваться уделом рабочей скотины. Замечу: социализм в СССР держался на дешевом труде и сырьевых ресурсах, страхе и лжи, белорусский рыночный пока держится в основном на лжи и устрашении. Волей-неволей Лукашенко загоняет осиновый кол в последний оплот социализма на шестой части суши. И слепому видно, как агонизирует "самый передовой", а вместе с ним — общество, мораль, нравственность. И ни мыльные пузыри, ни штыки его не спасут.

Как согласиться с утверждением Лукашенко, что государственные предприятия могут работать не хуже частных? Мне, журналисту, писавшему на производственные темы и знакомому, как выразился Лукашенко, с "суперсовременным производством Беларуси", это видится очередным мыльным пузырем.

Скажем, разве владелец частного МТЗ позволит пылиться ценным изобретениям Канаева? Он тут же расстанется с липовыми инженерами и ратью счетоводов-контролеров. Приобретет технологии для получения литейных отливок с минимальными припусками на мехобработку. Это значительно снизит себестоимость трактора, увеличит зарплату труженикам. Но тогда уж санэпидемстанция не будет смотреть сквозь пальцы, как тракторный отравляет окружающую атмосферу. И у президента страны перестанет болеть голова, где найти деньги для спасения госзавода.

Не станет глава государства и производить воздушные налеты на фермерские хозяйства, и устраивать телесовещания с аграриями. Хозяева земли сами будут решать свои вопросы с Крестьянским банком и поставщиками горючего, удобрений. У них трактор не будет "лопотать" вхолостую часами и прослужит не четыре года, как сельхозтехниковскому механизатору, а втрое дольше.

Фермеру придется следить за новинками, изучать рынок, экономику, законы — возрастет его интеллектуальный и культурный уровень. Тогда уж на выборах вдоль и поперек "просветит" кандидатов на власть. Дать крестьянам землю в частную собственность, льготные кредиты, освободить от налогов на 3—5 лет, защитить от произвола местных князьков — и пол-России завалят чистыми дешевыми продуктами! А пока закупаем овощи и фрукты в Польше и Молдавии, зерно — в Швеции (?!). Это же позор для страны!

Но ежели произвести "отчуждение" президента и чиновников от предприятий и колхозов-совхозов, то многие станут безработными. Ведь умеют они только повышать налоги и цены — но не создавать условия для обогащения людей. Наше государство не зарабатывает денег путем заключения выгодных сделок, привлечения инвестиций — идет самый настоящий грабеж тех, кто умеет трудиться. Оно фактически является рэкетиром, тунеядцем и потому руками и зубами держится за социализм, который еще ни одной стране не принес процветания и благополучия.

Иным людям кажется, что дай им власть — горы свернут! И цепляются за высокие кресла жук и жаба. Подталкивают нищета, стремление любой ценой вылезти в люди и вволю попользоваться благами власти. Вот "погнали деревенские городских" в 94-м, стал "первым лицом" в республике Лукашенко — и всего-навсего демонстрирует замашки "красного помещика", который казнит и милует подчиненных.

А если представить, что как человек "честный и порядочный" Александр Григорьевич наконец-то осознает личную вину за белорусскую трагедию? И выступит по телевидению с обращением к народу: "Я искренне хотел сделать как лучше, но принес стране позор. На ноябрьском референдуме выставил белорусов на смех... Простите, люди добрые! Пожелаю вам на очередных выборах отличить зерна от плевел, профессионалов — от пустышек". Что ж, повинную голову не рубят, может, и простим, отпустим с миром на Шкловщину...

Смешно об этом и думать. Не исключено другое — Лукашенко объявит себя пожизненным президентом, "идя навстречу пожеланиям трудящихся" или "в целях стабилизации обстановки". Станет "папой Сашей": ему есть что терять, за что отвечать. А мы потеряли все мыслимое и немыслимое, кроме цепей. Остались беззащитными. Боимся "схватить дубинки". Парадокс: один человек вершит судьбы миллионов, загнав нас, как при сталинской коллективизации, в "единый колхоз имени Лукашенко". Вершит суд якобы от нашего имени, выражая нашу волю. Так ли это?

Попытаюсь рассуждать без юридической зауми. Мы, избиратели-работодатели, в 94-м приняли Лукашенко на работу в должности президента Беларуси. Александр Григорьевич поклялся на Конституции, что будет соблюдать ее, станет гарантом наших прав и свобод. Много воды утекло с того дня — увидели, что в экономике он "мелко плавает", в основном "гнет политику". Убил веру народа в завтрашний день. Поссорил нас с родственниками, соседями, странами. Возникает закономерный вопрос: не ошиблись ли в выборе президента?

В жизни всякое случается. К примеру, молодые супруги знали друг друга с пеленок, а семья у них так и не сложилась. За иным человеком, кажется, пойдешь в огонь и воду — и вдруг оказывается, что он за рубль мать родную продаст. Понятно, прекращаешь с ним дружбу. Разводятся в узаконенном порядке супруги, поняв бессмысленность совместного проживания. А нельзя ли и нам "расторгнуть брак" с Лукашенко, ошибка которого очевидна?.. Господи, только не увидели бы здесь "независимые судьи" призыва к гражданскому неповиновению!

Следует дать людям возможность высказаться на этот счет. Конкретно — провести сбор подписей под заявлением "Мы, народ Беларуси, объявляем президенту импичмент!". На выборах за Лукашенко проголосовало 3800 тысяч избирателей — сейчас они смотрят на него сквозь прозрачный желудок. Думается, здесь проблем для независимых сборщиков подписей не будет. И Александр Григорьевич как человек честный и порядочный, готовый во имя блага народа пожертвовать последней рубахой, тихо-мирно уйдет под наши слова благодарности и счастливые слезы. Событие это станет для Беларуси Днем национального спасения.

Разумеется, рано или поздно это случится — начнется сбор камней, морально-нравственное выздоровление народа. А пока уходят в мир иной ветераны, кляня все и вся за выпавшую им горькую участь. Наверное, это самый страшный приговор Истории людям, так и не насладившимся счастьем полнокровной жизни, слепо уверовавшим в "пастухов", ведущих их в светлое будущее. Свести сущность жизни лишь к насыщению желудка дешевой колбасой и получению квартиры-клети — это преступление против народа.

Преступление продолжается — на сей раз под прикрытием рыночного социализма. На полные обороты запущены маховики лжи и устрашения. Властвуют страх и бесправие. Все реже слышатся "Извините, пожалуйста" "Спасибо". Легкомыслием выглядит смех молодых людей, не подозревающих, что им уготована участь отцов и матерей. А тем часом государственная кузница начала ковку пионеров и неокомсомольцев, которые заменят для Лукашенко их родителей.

Значит, Александр Григорьевич по примеру генсеков-маразматов намерен "служить" народу до конца дней своих. И будем, поминая недобрым словом богов и матерей, нести тяжкий крест... Впрочем, мы сами установили его в злополучном 94-м... И под благословение слуги Божьего в республике Филарета главный атеист распял на нем многое... Зашлась немым криком Беларусь.

Воскреснем ли и воскресим ли страну?..

**Дай, Божа, даваць, а не прасіць;**
**Дай, Божа, заўсёды смяяцца і ніколі не плакаць;**
**Дай, Божа, каб было гожа;**
**Дай, Божа, з радасцю працаваць і дома начаваць;**
**Дай, Божа, разам двое: і шчасце, і здароўе;**
**Дай, Божа, усё ўмець, а не ўсё рабіць;**
**Дай, Божа, чутае бачыць;**
**Дай, Божа, на жыццё, на быццё і на доўгі век.**
**У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амін.**

***(З кнігі «Мой радавод»)***
Уладзімера Ліпскага